*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ***



# наша слова




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года   № 25 (513)   20 ЧЭРВЕНЯ 2001 г.

## "Мы не згубімся ў Сусвеце..."

## Маладзечна-2001

Шосты раз, пераадолеўшы доўгае, трохгадовае маўчанне, прайшло гэтак чаканнае многімі свята – Нацыянальны фестываль беларускай паэзіі ды песні "Маладзечна-2001". Дзякуючы тэлетрансляцыям, завітала яно ці не ў кожны дом. Тры вечары не пакідаў сцэну заслужаны калектыў – Дзяржаўны канцэртны аркестр Беларусі на чале з мастацкім кіраўніком фестывалю М. Фінбергам. Шчыравалі вядомыя салісты, папулярныя ансамблі народнай музыкі, маладыя спевакі...

Пачаткоўцы спаборнічалі за фестывальны прыз – аўтамабіль "Жыгулі". Ды галоўнай узнагародай была ўсё ж гарачая ўдзячнасць публікі, якая, не зважаючы на непагадзь, захоплена і зычліва наведвала-падтрымлівала ўсе імпрэзы. А яны вызначаліся разнастайнасцю: у залах, на гарадскіх пляцоўках адбываліся літаратурныя сустрэчы, выступленні беларускіх паэтаў. Прайшоў аўтарскі вечар кампазітара У. Будніка. Ладкаваліся праграмы знаных дзяржаўных акадэмічных калектываў: народнага хору імя Г. Цітовіча, народнага аркестра імя І. Жыновіча, харавой капэлы імя Р. Шырмы. Сімвалічнымі госцямі завіталі ў Маладзечна "Музы Нясвіжа" – вытанчанае водгулле нядаўняга музычнага фэсту...

За тры дні прагучала больш як 170 самых розных песенных твораў; дэбютавала больш за 20 маладых выканаўцаў (Гран-пры атрымаў Д. Качароўскі з Ваўкавыска, цяпер – новы саліст Дзяржаўнага канцэртнага аркестра Беларусі).

Як ні разу да гэтага свята было насычана паэтычным беларускім словам. У цэнтральным парку пры вялікім наплыве народу адбыліся паэтычныя чытанні. Пра свой творчы шлях і грамадзянскую пазіцыю гаварыла Вольга Іпатава. Яна прачытала новыя вершы, адказала на шматлікія пытанні прысутных. Цікавымі былі сустрэчы маладзечанцаў з паэзіяй Алеся Пісьмянкова, Леаніда Дранько-Майсюка, Навума Гальпяровіча, Міколы Шабовіча.

А на другі дзень у парку сталічныя пісьменнікі выступілі разам з маладзечанскімі літаратарамі – удзельнікамі мясцовага аб'яднання "Купалінка".

Больш за дзве сотні маладзечанцаў сабраліся ў цэнтральную бібліятэку на вечарыну, прысвечаную творчасці народнага пісьменніка Беларусі Ніла Гілевіча. Была прадстаўлена кампазіцыя пра жыццёвы і творчы шлях Ніла Сымонавіча, чыталіся яго вершы. У вечарыне прынялі ўдзел Вольга Іпатава, Леанід Дранько-Майсюк, Навум Гальпяровіч, Алесь Пісьмянкоў. Гледачы з вялікай цікавасцю і ўвагай сустрэлі іх выступленні, цёпла прымалі кожны верш, задавалі пытанні, прасілі аўтографы. Удзельнікі гэтай сустрэчы запрашалі пісьменнікаў прыязджаць часцей, жадалі нашаму творчаму саюзу і яго кіраўніцтву поспехаў у справе прапаганды роднай літаратуры, выказвалі падтрымку дзейнасці найстарэйшай творчай суполкі краіны.

Цягам усяго фестывалю абсалютна панавала беларуская мова. Цнатлівасць беларушчыны быў захаваны і тады, калі выконваліся песні замежных аўтараў. Яны ішлі ў добрых беларускіх перакладах.

З якога боку пазней не разглядалі б гэты фестываль, ад імя ТБМ можна толькі шчыра сказаць: "Дзякуй!", - усім удзельнікам і перш за ўсё маэстра Міхасю Фінбергу.

## "Талакуха на Бярэсці"

Больш шасцісот удзельнікаў абласнога фальклёрнага фестывалю "Талакуха на Бярэсці" паказалі сваё мастацтва на возеры Гаць пад Баранавічамі. Сярод іх былі і індывідуальныя выканаўцы песень і народнай музыкі, беларускіх абрадаў і гульняў, а таксама прадстаўнікі сучасных відаў апрацоўкі фальклёру "Рок-фольк" і "Фольк-мадэрн". Полькі, кадрылі, гарадскія бытавыя танцы заклікалі ахвотных у кола. Святочнае шэсце ўдзельнікаў, рыцараў "Берасцейскай харугвы", эмацыянальнасць і непаўторнасць фальклёрна-этнічных калектываў стварылі святочную атмасферу фестывалю.

На здымку: са святочным караваем - Наталля Буневіч з калектыву "Магдалін" (г. Кобрын).

**Фота Рамана Кабяка, БелТА.**



ПРАКУРАТУРА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ
ПРОКУРАТУРА РЕСПУБЛИКИ БЕЛАРУСЬ
220050, г. Мінск, ГСП вул. Інтэрнацыянальная, 22
220050, г. Минск, ГСП ул. Интернациональная, 22
Тел. 26-43-58
04.05.2001. № 7118-2001
На № 150 ад 03.04.2001.

**Старшыні ГА ТБМ імя Ф.Скарыны"**
**Трусаву А.А.**

220005, г. Мінск, вул.Румянцава, 13

Пракуратурай рэспублікі разгледжана Ваша заява аб наяўнасці ў дзеяннях творчага калектыву тэлевізійнай перадачы "Тайныя спружыны палітыкі" складу крымінальнага злачынства ў сувязі з распальваннем у тэлеперадачах ад 29 і 31 сакавіка 2001 г. нацыянальнай варожасці.

Прааналізаваўшы змест названай тэлеперадачы і Вашы довады аб пагардлівых выказваннях у тэлеэфіры ў адносінах да беларусаў і да беларускай мовы, знаходзім, што не маецца падстаў для ўзбуджэння крымінальнай справы па прыметах складу злачынства, прадугледжанага арт. 130 КК Рэспублікі Беларусь (распальванне расавай, нацыянальнай ці рэлігійнай варожасці ці розні).

Калі Вы лічыце, што дзеяннямі Белдзяржтэлерадыёкампаніі закранута дзелавая рэпутацыя ўзначальваемага Вамі аб'яднання, то ў адпаведнасці з арт. 153 ГК Рэспублікі Беларусь Вы маеце права абараніць яе ў судовым парадку.

**Начальнік аддзела Р. А. Шостак.**

**Нацыянальная дзяржаўная тэлерадыёкампанія Рэспублікі Беларусь**



**Национальная государственная телерадиокомпания Республики Беларусь**

220807, Рэспубліка Беларусь, г. Мінск, вул. Макаёнка, 9 — 220807, Республика Беларусь, г. Минск, ул. Макаёнка, 9

3.05.2001 г. № 415

**Старшыні грамадскага аб'яднання**
**"Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны"**
**220050, г. Мінск, вул.Румянцава, 13**

**Паважаны Алег Трусаў!**

Дырэкцыя грамадска-палітычнага вяшчання Нацыянальнай дзяржтэлерадыёкампаніі Рэспублікі Беларусь уважліва разгледзела Ваш зварот да Генеральнага пракурора В. В. Шэймана.

Лічым неабходным паведаміць Вам, што праграмы праекту Ю. Азаронка "Тайныя спружыны палітыкі" ствараюцца ў строгай адпаведнасці з арт. 25, 28, 35, 39, 49, 50 Закона "Аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі" і ніводнага факту парушэння гэтага закону дапушчана не было.

Вашы прэтэнзіі маюць суб'ектыўны і залішне эмацыянальны характар і нічым не абгрунтаваныя.

**Дырэктар Дырэкцыі грамадска-палітычнага вяшчання**
**Нацыянальнай дзяржтэлерадыёкампаніі М. М. Сяргееў.**

Нацыянальная дзяржаўная тэлерадыёкампанія Рэспублікі Беларусь



Национальная государственная телерадиокомпания Республики Беларусь

220807, Рэспубліка Беларусь, г. Мінск, вул. Макаёнка, 9 — 220807, Республика Беларусь, г. Минск, ул. Макаёнка, 9

25.05.2001 № 01-13/728

**25.05.2001 г. № 01-13/728**

**Старшыні ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны"**
**Алегу Трусаву.**

Вы просіце прадаставіць запіс радыёпраграмы "Размова па сутнасці" ад 30 красавіка 2001 года, дзе, на вашу думку, была ацэнка дзейнасці вашай арганізацыі і некаторых сяброў Рэспубліканскай Рады Таварыства беларускай мовы.

Паведамляем, што праграма "Размова па сутнасці" гучыць у прамым эфіры, таму і запіс яе прадаставіць вам не можам.

**Галоўны рэдактар (Н.Чайка).**





*Актуальна*

## Вынеслі ў “шапку” ... расейскую “вязь”

Выдавецкі цэнтр БелТА выдаў нядаўна шыкоўны каляровы плакат-каляндар на 2001 год, прысвечаны 885-м угодкам Слуцка, якія будуць адзначацца недзе ў сярэдзіне лета. Некалькі дзесяткаў іх атрымаў, па заяўцы, і мясцовы гістарычна-краязнаўчы музей – на продаж. Цана аднаго экзампляра памяркоўная – 750 рублёў.

Аўтары календара-плаката – дызайнер А.Лапін і фатограф А. Давідовіч – пастараліся надаць яму прыцягальны імідж размешчаным па цэнтры вялікім каляровым здымкам помніка прасвятой князёўны Сафіі Слуцкай, што стаіць у цэнтры горада побач з капліцай святой Варвары, і выявай герба горада “Пегаса” – каня з крыламі. Усё было б, як кажуць, чын па чыну, калі б не тытульная, зверху, “шапка” юбілейнага выдання, напісаная залацістымі літарамі ... расейскай ламанай “вязью”: “885 лет со дня первого упоминания Слуцка” . Быццам старажытны горад знаходзіцца не ў самым цэнтры Беларусі, а недзе на Браншчыне ці Смаленшчыне. Нават у недалёкія савецкія часы выдаўцы падобных юбілейных плакатаў стараліся не дазваляць сабе гэткага непрыкрытага грэбавання беларускай мовай. Ці можа белтаўскія выдаўцы палічылі ўжо нас, случчан, жыхарамі “северо-западного края” Расіі, у абдымкі якой імкнуцца ўцягнуць ініцыятары стварэння адзінай дзяржавы?

*Мікола Кутнявіцкі, г. Слуцк.*

## Чатыры мовы ва ўжытку, акрамя пятай – беларускай

У Слуцку год таму адкрыўся так званы сучасны гуманітарны інстытут – мясцовае прадстаўніцтва – філія аналагічнага Маскоўскага інстытута. З факультэтамі эканомікі, менэнджменту, юрыспрудэнцыі, псіхалогіі, інфарматыкі і вылічальнай тэхнікі. Вучэльня платная, форма навучання – вочная і завочная, тэрмін – ад двух з паловай да пяці гадоў.

Пры паступленні ў інстытут з абітурыентамі праводзіцца тэставанне на рускай мове і на агульную дасведчанасць. Зараз тут набываюць веды звыш 400 чалавек ва ўзросце ад 16 да 50 гадоў. Выкладанне прадметаў вядзецца на рускай мове, акрамя таго студэнты вывучаюць англійскую, нямецкую і лацінскую мовы. А вось беларускай у праграме месца не знайшлося – яе проста праігнаравалі па новай “вертыкальнай” завядзёнцы знізу да вярхоў.

Не выключаю, што са сцен навучальнай установы выйдуць з цягам часу нядрэнныя спецыялісты, і яны знойдуць сабе работу не толькі дома, а і за межамі раёна. Толькі ў сябе на радзіме многія з іх застануцца манкуртамі, у якіх будзе крайне адмоўная рэакцыя на пачутае беларускае слова і нулявая нацыянальная свядомасць.

*Мікола Кутнявіцкі, г. Слуцк.*

РЭСПУБЛІКА БЕЛАРУСЬ
МІНСКІ ГАРАДСКІ ВЫКАНАЎЧЫ КАМІТЭТ
АДМІНІСТРАЦЫЯ КАСТРЫЧНІЦКАГА РАЁНА
220060, г. Мінск, вул. Чкалава, 6, т. 224-47-73

РЕСПУБЛИКА БЕЛАРУСЬ
МИНСКИЙ ГОРОДСКОЙ ИСПОЛНИТЕЛЬНЫЙ КОМИТЕТ
АДМИНИСТРАЦИЯ ОКТЯБРЬСКОГО РАЙОНА
220060, г. Минск, ул. Чкалова, 6, т. 224-47-73

06.03.2001 № 2-650
на № 3 от 07.02.2001-03-22

**Старшыні Рады Кастрычніцкай раённай арганізацыі грамадскага аб’яднання “Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны”**
**ГРЫБУ Я.**

Паважаны спадар!

Адміністрацыя Кастрычніцкага раёна разгледзела Ваш ліст і паведамляе наступнае.

У адпаведнасці з Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь (арт.17), Законам Рэспублікі Беларусь “Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь” (арт.2) дзяржаўнымі мовамі нашай краіны з’яўляюцца беларуская і руская. Таму ўсе службы адміністрацыі раёна валодаюць і карыстаюцца на неабходным узроўні дзвюма мовамі.

Што тычыцца адносін работнікаў адміністрацыі раёна да беларускай мовы, Ваша сцвярджэнне не адпавядае сутнасці, у тым ліку, па аддзелу сацыяльнай абароны.

У рэчаіснасці не было выпадку, калі б чалавек звярнуўся на роднай мове, а пытанне засталося не вырашаным.

На памяшканнях большасці аддзелаў і службаў адміністрацыі раёна шыльды з найменнямі змешчаны на беларускай мове, а пасля заканчэння рамонту будуць вывешаны на ўсіх. У адпаведнасці з распараджэннем Мінгарвыканкама рашэнні і распараджэнні адміністрацыі раёна вядуцца толькі на беларускай мове па пытаннях узнагароджвання, выдзялення пенсій за асаблівыя заслугі, культуры, адукацыі, аказання фінансавай дапамогі і г.д.

З павагай ставіцца адміністрацыя раёна да навучання дзяцей на роднай мове. Захавалі статус 3 беларускамоўныя школы і 2 садкі. У 11 школах працуюць 52 беларускамоўныя класы і 19 груп у дашкольных установах. Кіраўнікі школ і дашкольных устаноў мэтанакіравана праводзяць работу сярод бацькоў па пашырэнні сеткі беларускамоўных класаў.

Адміністрацыя раёна супрацоўнічае і будзе супрацоўнічаць з усімі грамадскімі аб’яднаннямі па пытаннях, звязаных з прапагандай і развіццём беларускай культуры.

**Кіраўнік адміністрацыі В. П. БУРА.**

**Павел Сцяцко**

# Культура мовы

### ЯШЧЭ РАЗ ПРА ФОРМЫ СТУПЕНЯЎ ПАРАЎНАННЯ ПРЫМЕТНІКАЎ І ІХ НАРМАТЫЎНАЕ ВЫКАРЫСТАННЕ

Якасныя прыметнікі, як вядома, абазначаюць прымету прадмета, якая здатная выяўляцца ў рознай ступені ў розных прадметах ці тым самым прадмеце ў розны час. Таму якасныя прыметнікі ўтвараюць ступені параўнання – вышэйшую і найвышэйшую і маюць сінтэтычную (аднаслоўную) і аналітычную (двухслоўную) формы.

Аднаслоўная (сінтэтычная) форма ўтвараецца з выкарыстаннем афіксаў: 1. Вышэйшая ступень – з дапамогаю націскнога суфікса ***–эйш- (-ейш-)*** і родавых канчаткаў: *смелы -- смял-ейшы, стары -- стар-эйшы*; зрэдку – суфікс ***–ш-***: *добры -- леп-шы, дрэнны -- горшы*. 2) Найвышэйшая ступень утвараецца з дапамогаю прыстаўкі ***най-***, якая далучаецца да формы вышэйшай ступені: *смялейшы -- найсмялейшы, здатнейшы -- найздатнейшы*.

Варта заўважыць тут, што і ў саміх назвах ступеняў параўнання ёсць гэтыя паказчыкі ступені: вышэйшая (ступень) – суфікс – ***эйш-***, найвышэйшая (ступень) – прыстаўка ***най-***. І гэта паказвае, што беспрыстаўкавыя формы на – ***эйшы (-ейшы)*** няздатныя перадаваць значэнне найвышэйшай ступені.

Калі чытаеш такі вось тэкст (заклік) у транспарце “Сумленне – лепшы кантралёр”, то адразу адчуваеш штучнасць, недарэчнасць яго. Бо форма вышэйшай ступені (лепшы) патрабуе параўнання, адказу на пытанне “за што?”: “Сумленне – лепшы (за што?) кантралёр”.

Памылковае выкарыстанне формы вышэйшай ступені (яна не мае прыстаўкі ***най-***) узнікла як вынік зблытвання розных моваў (расейскай і беларускай), механічнага, штучнага пераносу расейскай нормы ў беларускую мову. Але ж у расейскай мове суфіксаваныя ўтварэнні – гэта формы найвышэйшай ступені, а ў беларускай значэнне найвышэйшай ступені перадаецца (у аднаслоўных формах) з дапамогаю прыстаўкі ***най-***, а беспрыстаўкавая форма мае значэнне толькі вышэйшай ступені. Таму расейскаму “Совесть – лучший контролер” натуральна адпавядае беларускае “Сумленне – найлепшы кантралёр”.

Беларускія ж формы вышэйшай ступені параўнання (з суфіксамі ***–ейш-,-ш***) выступаюць адпаведнікамі расейскіх, якія маюць суфіксы ***–е, -ее, -ей.*** Параўн.: “Это здание выше и красивее” – белар. “Гэты будынак вышэйшы і прыгажэйшы (за суседні)”.

Калі чытаеш на старонках не надта патрабавальнага да культуры мовы друку тэкст “Чакаецца сустрэча на вышэйшым узроўні”, то становіцца незразумелым, кіраўнікі якога рангу будуць сустракацца. Калі прэзідэнты, то гэта сустрэча на найвышэйшым узроўні (рас. “Встреча на высшем уровне”), бо прэзідэнты – найвышэйшыя кіраўнікі, кіраўнікі дзяржаваў (рас. “главы государств”).

Праверыць правільнасць выкарыстання аднаслоўных формаў ступеняў параўнання прыметнікаў на ***–эйшы (-ейшы)*** дапамагае замена іх адпаведнымі аналітычнымі (двухслоўнымі) формамі.

Аналітычнаыя формы ступеняў параўнання прыметнікаў, як ведама, утвараюцца шляхам далучэння слоў ***больш, менш*** да якасных прыметнікаў пры вышэйшай ступені ***(больш смелы, менш здатны)*** або слоў ***найбольш, наймениш*** пры ўтварэнні найвышэйшай ступені ***(найбольш падрыхтаваны, наймениш здатны)***, а таксама (радзей) слова ***сама*** ці ***самы***: ***сама (самы) здатны.***

Звернем увагу, што і тут словы – паказчыкі ступені – маюць тыя ж афіксы, што і ў сінтэтычных назвах: ***больш*** – суфікс – ***ш***, ***най-больш*** – прыстаўку ***най-***.

Так, згаданае ўжо недакладнае “Сустрэча на вышэйшым узроўні” – гэта “Сустрэча на больш вы-сокім узроўні”. А нарматыўна “Сустрэча на най-больш высокім узроўні”, г. зн. на найвышэйшым (самым высокім) узроўні.

Або калі ў перадачах гідрамецэнтра чуем (чытаем): “У бліжэйшыя суткі чакаецца пераменная воблачнасць...”, то міжвольна ўзнікае недаўменне, якія гэта суткі? Бліжэйшыя за якія? (сённяшнія, учарашнія?). У гэтым штучным перакладным тэксце расейскае ближайшие заменена на бліжэйшыя. Аднак гэтыя формы нятоесныя сваім значэннем: белар. бліжэйшыя – мае значэнне вышэйшай ступені, а рас. ближайшие – найвышэйшай ступені. На месцы псеўдаэквівалента бліжэйшыя (суткі) да месца павінна быць найбліжэйшыя (суткі). А такімі ёсць наступныя суткі (наступаюць пасля цяперашніх).

Пэўны час на тэлебачанні выкарыстоўвалася натуральнае: “У наступныя суткі”... А цяпер зноў чуем гэткую трасянку – калькаванне: “У бліжэйшыя суткі”. А часам нават... “У бліжайшыя суткі”, хоць у беларускай мове няма націскнога суфікса ***–айш-***. (У расейскай мове ён узнікае пасля асновы на зычныя ***ж, ч, ш***: ***легкий – легче – легчайший, близкий – ближе – ближайший).***

Расейскім формам найвышэйшай ступені прыметнікаў з суфіксамі ***–ейш, -айш-*** могуць адпавядаць беларускія эмацыйна-ацэнкавыя формы прыметнікаў з суфіксам ***–утк- (-ютк-).*** Так, у “Беларуска-рускім слоўніку” пад рэдакцыяй К.Крапівы (Мн., Т. І. с. 387) бачым: “Драбнюткі – мельчайший”. І ў “Тлумачальным слоўніку беларускай мовы” (Т.3. – Мн., 1979, с.222) чытаем: “Навюткі – самы новы”).

Паставіўшы на месца простай формы прыметніка з суфіксам ***–ейш-*** яе адпаведнік – аналітычную форму з словам ***больш***, лёгка высветліць натуральнасць ці ненатуральнасць (штучнасць) выкарыстання суфіксавай формы на – ***эйшы (-ейшы).***

У адным з акадэмічных выданняў 1999 года чытаем: “Тэрміналогія стваралася высокакампетэнтнай камісіяй, у склад яе ўваходзілі як буйнейшыя беларускія вучоныя, так і найбольш вядомыя філолагі, у тым ліку і моваведы”. Заменім у гэтым недасканалым тэксце сінтэтычную форму ***буйнейшыя*** на адэкватную сэнсам аналітычную ***больш буйныя*** – і выявіцца ўся недарэчнасць штучнага выкарыстання формы вышэйшай ступені ***буйнейшыя*** на месцы патрэбнай тут найвышэйшай ступені ***найбуйнейшыя*** (або ***найбольш буйныя*** ці ***самыя буйныя***). На такую натуральную форму – найвышэйшую ступень – паказвае і аднародны складнік сказа ***найбольш вядомыя*** (філолагі).

Памылковымі ёсць і формы аналітычнай вышэйшай і найвышэйшай ступені параўнання прыметнікаў, у якіх другі кампанент іх – форма вышэйшай ступені прыметніка, як у сказах: 1) Ды больш глыбейшай падасновай усіх працэсаў была тая філасафічнасць; 2) Трактат С. Буднага “Пра найбольш важнейшыя палажэнні хрысціянства” пераважна палемічны. Такія формы ступеняў параўнання толькі зацямняюць сэнс выказвання. Пры словах ступені ***больш, найбольш*** прыметнікі не павінны мець формы ступені параўнання, бо на яе паказвае само слова ступені ***больш*** ці ***найбольш***. Да таго ж у сінтаксічнай канстукцыі ***больш глыбейшы*** – таўталогія: абодва словы маюць форму вышэйшай ступені. Натуральнаму ладу мовы адпавядае: 1) ***больш глыбокія*** (паказчык ступені параўнання – слова ***больш***), 2) ***глыбейшыя*** – значэнне вышэйшай ступені перадаецца формаю з суфіксам ***–ейш-(ыя)***.

Парушаюць норму нацыянальнай беларускай літаратурнай мовы і формы з суфіксам ***–эй (-ей)*** у ролі прыметнікаў кшталту ***“сціна даражэй”, “бацькі мудрэй”***, бо гэтыя ***“даражэй”***, ***“мудрэй”*** – прыслоўі (а не прыметнікі): яны нязменныя, не дапасуюцца да назоўнікаў. У беларускія тэксты такія словы трапляюць з расейскай мовы, дзе формы на ***–ей (-ее,-е)*** выконваюць дваякую ролю: выступаюць і як прыслоўі, і як прыметнікі. Адметнасць беларускай мовы параўнальна з расейскай добра паказваюць перакладныя слоўнікі. Напрыклад, у “Русско-белорусском словаре” (Мн., 1993 г. Т.І., с.157,313) чытаем: “Веселее сравн. ст. 1. нареч. весялей; 2. прил. весялейшы; глубже сравн. ст. 1. нареч. глыбей; здесь глубже – тут глыбей; 2. прил. глыбейшы ; эта мысль глубже – гэтая думка глыбейшая.

Калі вярнуцца да звестак гідрамета, то там нярэдка парушаецца і сінтаксічная канструкцыя сказа: “Тэмпература вышэй нормы (ніжэй нормы)...” А нарматыўна: “вышэйшая за норму” або “перавышае норму”. Ці “ніжэйшая за норму” або “не дасягае нормы”. І канструкцыя “павысілася (панізілася) на ... градусаў вышэй (ніжэй) нуля” таксама ненарматыўная. Натуральна пабеларуску ***“ніжэй (вышэй) ад чаго”*** (канструкцыя з прыназоўнікам ***ад***; у расейскай мове ёй адпавядае беспрыназоўнікавае кіраванне: ***выше (ниже) чего.*** Правільна: “Тэмпература на ... градусаў вышэй (ніжэй) ад нуля”.

*(Працяг у наст. нумарах)*



# Конкурс “Лепшы рупліўца роднага слова”

**I. МЭТА КОНКУРСУ.**

Мэтай конкурсу **“Лепшы рупліўца роднага слова”** з’яўляецца пошук, вывучэнне, абагульненне і прапаганда перадавога досведу настаўнікаў, педагогаў-выхавальнікаў, кіраўнікоў клубаў, гурткоў і іншых спецыялістаў адукацыі, досведу, які адлюстроўвае творчы і руплівы падыход да выхавання нацыянальнай самасвядомасці, да засваення гістарычна-культурнай спадчыны беларускага народа і пашырэння сферы выкарыстання беларускай мовы.

**II. ЗАСНАВАЛЬНІКІ КОНКУРСУ:**

Упраўленне адукацыі Віцебскага аблвыканкаму;

Абласны Інстытут павышэння кваліфікацыі і перападрыхтоўкі кіруючых работнікаў і спецыялістаў адукацыі;

Абласное аб’яднанне па арганізацыі пазашкольнай работы з дзецьмі і падлеткамі;

Абкам прафсаюзу работнікаў адукацыі і навукі;

Газета “Народнае слова”;

Аблтэлерадыёкампанія;

Абласны камітэт па санаторна-курортным лячэнні і аздараўленні.

**III. УДЗЕЛЬНІКІ КОНКУРСУ.**

У конкурсе могуць прыняць удзел настаўнікі, прадстаўнікі адміністрацыі, педагогі-выхавальнікі, кіраўнікі гурткоў, клубаў, метадычных аб’яднанняў, стваральнікі школьных музеяў, метадысты устаноў адукацыі і іншыя спецыялісты, якія з’яўляюцца творцамі лепшага досведу выхавання нацыянальнай самасвядомасці вучняў, арганізатарамі мэтанакіраванай дзейнасці школьнікаў і дарослых па фармаванні павагі і клапатліваашчадных адносін да роднай мовы, да інтэнсіўнага і бесперапыннага пашырэння сфер яе выкарыстання.

Кожны з удзельнікаў конкурсу прадстаўляе сваю дзейнасць па трох кірунках: паўрочная работа, афармленне кабінета, музея і г.д.; арганізацыя пазакласнай і пазашкольнай работы, накіраванай на пашырэнне сферы выкарыстання беларускай мовы.

**IV. ПАРАДАК І ЎМОВЫ ПРАВЯДЗЕННЯ КОНКУРСУ.**

Абласны конкурс на лепшага рупліўца роднага слова праводзіцца з красавіка 2001 года па травень 2002 года ў тры этапы.

**I этап – красавік – кастрычнік 2001 года.**

Конкурс праводзіцца ў навучальных установах вобласці. Кіраўніцтва першым этапам конкурсу ажыццяўляюць школьныя аргкамітэты.

**II-этап – лістапад 2001 – люты 2002 года.**

Конкурс праводзіцца ў гарадах і раёнах. Кіраўніцтва другім этапам конкурсу ажыццяўляюць раённыя і гарадскія аргкамітэты. Па заканчэнні другога этапу конкурсу аргкамітэт рыхтуе справаздачу, якая разам са спісам пераможцаў і матэрыяламі дзейнасці: альбомы, буклеты, фотаздымкі, відэаматэрыялы, даклады, распрацоўкі ўрокаў, заняткаў гурткоў, факультатываў, артыкулы і інш. накіроўваюцца ў абласны аргкамітэт да 1 сакавіка 2002 года па адрасу:

***210602, г.Віцебск, пр-т Фрунзе, 21, Віцебскі абласны Інстытут павышэння кваліфікацыі і перападгатоўкі кадраў і спецыялістаў адукацыі.***

**III-этап – сакавік – травень 2002 года.**

Кіраўніцтва трэцім этапам конкурсу ажыццяўляе абласны аргкамітэт.

Вызначаюцца пераможцы шляхам аналізу дасланых матэрыялаў і праз наведванне сябрамі аргкамітэту навучальных устаноў, дзе працуюць лепшыя настаўнікі. Канчатковыя вынікі конкурсу падводзяцца на абласной канферэнцыі ў траўні 2002 года.

**Прыкладны пералік матэрыялаў для прадстаўлення на конкурс:**

- аўтарскія праграмы, навучальныя курсы і дапаможнікі для настаўнікаў і вучняў;
- аўтарскія комплексы навучальных матэрыялаў па тэхналагічным забеспячэнні выкладання беларускай мовы, літаратуры, гісторыі, іншых прадметаў навучальнага плана школы, якія выкладаюцца на беларускай мове;
- абагульнены досвед работы клубаў, гурткоў, досвед дзейнасці класных кіраўнікоў, педагогаў-выхавальнікаў і іншых спецыялістаў;
- досвед арганізацыі; літаратурна-мастацкай дзейнасці дзяцей, падлеткаў, старшакласнікаў;
- досвед дзейнасці музеяў, клубаў, гурткоў, нацыянальна-патрыятычных аб’яднанняў і г.д.;
- досвед работы метадычных аб’яднанняў па азначанай тэматыцы;
- досвед эксперыментальнай работы педагагічных калектываў па стварэнні інавацыйных школ і сістэм выхавання ва ўмовах рэформы адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь;
- досвед выкладання прадметаў вучэбнага плана на беларускай мове;
- копіі (магчыма і арыгіналы) друкаваных работ вучняў, выхаванцаў, настаўнікаў, кіраўнікоў школ, пазашкольных устаноў;
- артыкулы ў часопісах і газетах, навуковыя і метадычныя публікацыі;
- зборнікі алімпіядных і конкурсных матэрыялаў;
- апісанне вынікаў краязнаўчага пошуку (як вынік паходаў, падарожжаў, экспедыцый па родным краі);
- матэрыялы аглядаў, конкурсаў, выстаў-практыкумаў па азначанай праблеме;
- фота, відэаматэрыялы, гуказапісы, дыскеты, якія створаны і выкарыстоўваюцца з мэтай развіцця нацыянальнай самасвядомасці школьнікаў і дарослых;
- матэрыялы, якія прадстаўляюць працу з бацькамі і грамадскасцю па прапагандзе беларускай мовы і нацыянальнай культуры.

**V. АРГКАМІТЭТ І ЖУРЫ.**

Персанальны склад аргкамітэтаў і журы кожнага этапу конкурсу вызначаюцца адпаведнымі загадамі ўстаноў і аддзелаў адукацыі.

Абласны аргкамітэт з’яўляецца і журы абласнога этапу конкурсу.

Сябры аргкамітэту і журы конкурсу ладзяць сваю работу на аснове адкрытасці, забеспячэння ўсім удзельнікам аднолькавых магчымасцяў; распрацоўваюць крытэрыі і паказчыкі для вызначэння пераможцаў конкурсу і аб’ектыўна ацэньваюць усе конкурсныя матэрыялы.

**VI. ЗААХВОЧВАННЕ ЎДЗЕЛЬНІКАЎ.**

Пераможцы абласнога конкурсу ўзнагароджваюцца Ганаровымі граматамі, Памятнымі прызамі і падарункамі.

**VII. ФІНАНСАВАННЕ І ЗАБЕСПЯЧЭННЕ ПРАВЯДЗЕННЯ КОНКУРСУ.**

Упраўленне адукацыі аблвыканкаму выдзяляе сродкі на правядзенне трэцяга этапу конкурсу і выніковай канферэнцыі ў адпаведнасці з каштарысам, дзе прадугледжвае набыцце грамат, канцтавараў, прызоў пераможцам, тыражаванне матэрыялаў, камандзіровачныя выдаткі і інш.

Першы і другі этапы фінансуюцца адпаведнымі органамі і ўстановамі адукацыі.

Абласны Інстытут павышэння кваліфікацыі і перападрыхтоўкі кадраў і спецыялістаў адукацыі забяспечвае месца працы аргкамітэту, прыём конкурсных матэрыялаў, выдзяленне транспарту, набыццё сувеніраў для заахвочвання.

Абласное аб’яднанне па арганізацыі пазашкольнай работы з дзецьмі і падлеткамі выдзяляе залу для правядзення выніковай канферэнцыі, забяспечвае культурную праграму для яе ўдзельнікаў, выдзяленне транспарту, набыццё сувеніраў для заахвочвання.

Абкам прафсаюзу работнікаў адукацыі і навукі выдзяляе сродкі на набыццё прызоў для абласнога этапу конкурсу, харчаванне ўдзельнікаў выніковай канферэнцыі і правядзенне для іх культурнай праграмы.

Газета “Народнае слова” забяспечвае інфармацыяй па правядзенні конкурсу, прапагандуе лепшы педагагічны досвед, арганізуе сустрэчы з удзельнікамі конкурсу, друкуе матэрыялы, выдзяляе 3 бясплатныя падпіскі на газету “Народнае слова” на II паўгоддзе 2002 года.

Аблтэлерадыёкампанія асвятляе праз тэлебачанне і радыё правядзенне конкурсу. Арганізуе інтэрвію з яго ўдзельнікамі. Прапагандуе лепшы досвед. Арганізуе па тэлебачанні вышэйшанні для пераможцаў.

Абласны камітэт па санаторна-курортным лячэнні і аздараўленні забяспечвае выдзяленне пуцёвак для санаторна-куротнага лячэння пераможцаў конкурсу.

***Дадатак №2***

**СКЛАД**
**арганізацыйнага камітэту абласнога конкурсу на лепшага рупліўца роднага слова**

**Сягоднік А. І.** – першы намеснік начальніка ўпраўлення адукацыі, старшыня

**Сябры аргкамітэту:**

**Кучынскі У. І.** – прарэктар па навукова-метадычнай рабоце Віцебскага абласнога ІПК і ПКР і СА.

**Ляхоўская Л. Ф.** – вядучы спецыяліст упраўлення адукацыі.

**Гамзюк В. А.** – намеснік генеральнага дырэктара абласнога аб’яднання па арганізацыі пазашкольнай работы з дзецьмі і падлеткамі.

**Куржалаў А. В.** – загадчык аддзела беларусазнаўства і нацыянальнага адраджэння абласнога аб’яднання па арганізацыі пазашкольнай работы з дзецьмі і падлеткамі.

**Бабашка З. І.** – метадыст вышэйшай катэгорыі аддзела гуманітарна-эстэтычных дысцыплін ІПК і ПКР і СА.

**Шарэнда Н. В.** – загадчык аддзелу сацыяльна-эканамічнай аховы абкаму прафсаюзаў работнікаў адукацыі.

**Васільева Т. С.** – галоўны спецыяліст па аздараўленні дзяцей і падлеткаў абласнога ўпраўлення па аздараўленні і санаторна-курортным лячэнні насельніцтва.

**Шпакоўская Г. І.** – загадчык аддзелу культуры і навін газеты “Народнае слова”.

**Кузняцова Н. В.** – рэдактар абласнога тэлебачання.

**Байнаровіч Н. С.** – рэдактар тэлекампаніі “Віцебскі веснік”.

## *Наўздагон VII з’езду ТБМ*

**Старшыні ТБМ сп. Алегу Трусаву.**

Паважаны спадар Старшыня!

Дазвольце павіншаваць Вас з абраннем на пасаду старшыні Грамадскага аб’яднання “Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны”.

Таварыства беларускай мовы і Вы, як яе старшыня, праводзіце высокародную працу па захаванню і развіццю беларускай мовы.

Здароўя Вам і сілы духу дзеля высокароднай справы – захавання крынічкі нашай культуры, будучыні Беларусі – матчынай мовы.

*Дазвольце таксама ўнесці адну прапанову па выніках з’езду. Вельмі важным, на мой пункт гледжання, з’яўляецца стварэнне беларускага рэдактара да кампутарных праграм Windows. Чалавек па сваёй натуры псіхалагічна накіраваны на карыстанне тымі рэдактарамі, якія могуць аўтаматычна правераць той тэкст, які ён друкуе, і калі гэта робіць кампутар, то ён не будзе карыстацца слоўнікам. Ведаю, што шмат дзяржаўных службоўцаў маглі б больш пісаць па-беларуску, калі б існаваў беларускі рэдактар у ЭВМ.*

*Падаецца, што гэта не з’яўляецца вельмі дарагім праектам. Для яго рэалізацыі, думаю, можна звярнуцца па фінансавую дапамогу ў розныя еўрапейскія фонды, а таксама абвесціць збор прыватных сродкаў.*

*Буду ўдзячны за магчымы адказ.*

**З павагай**
**Павел Латушка,**
**начальнік упраўлення інфармацыі – прэс-сакратар МЗС Беларусі.**

## Выступ на VII з’ездзе ТБМ сп. Вячкі Станкевіча, сябра Рады БНР

Я перш прачытаю прывітанне ад старшыні Рады Беларускай Народнай Рэспублікі Івонкі Сурвілы (яна мне яго перадала).

***“Высокапаважаныя і дарагія суродзічы, сябры Таварыства беларускай мовы. Маю вялікую прыемнасць вітаць ад Рады БНР удзельнікаў з’езду Таварыства беларускай мовы, які праходзіць у Менску сёння. Вашая праца над Стратэгіяй, каб выратаваць нашую мову, ваш вельмі разважны і талерантны падыход да гэтага пытання заслугоўваюць на падтрымку ўсяго нашага грамадства і на ўдзячнасць з боку ўсіх тых, хто змагаецца за беларускую будучыню нашага краю. Жадаю, каб зрэалізаваліся ўсе вашыя намаганні. Памажы вам, Божа! Жыве Беларусь!”***

**Падпісалася Івонка Сурвіла, старшыня Рады Беларускай Народнае Рэспублікі**

Цяпер хачу дадаць пару слоў, пару думак, пажаданняў ад сябе.

Для эміграцыі захаванне і развіццё беларускай мовы і культуры з’яўляецца сапраўды галоўным іх зацікаўленнем. Таму дзейнасць ТБМ для беларускай дыяспары бліжэйшая за дзейнасць партыяў ці праваабарончых, ці дабрачынных арганізацыяў. Дзеля таго было б карысна для ТБМ узмацніць свае сувязі з беларускім замежжам. Маё асабістае дасведчанне ў супрацоўніцтве з кіраўніцтвам ТБМ вельмі станоўчае. Да прыкладу семінараў “Я магу жыць лепей”, якія ўжо праходзяць, яно аднеслася ў энтузіязмам і адказнасцю. Сэнс семінараў – гэта навучыць слухачоў, як канкрэтна палепшыць свой лёс, беручы за гэта ўсё-такі асабістую адказнасць.

У сувязі з стратэгіяй, якая прапануецца на з’ездзе, стратэгіяй пашырэння беларускай мовы, калі кожны тут прысутны возьме на сябе асабістую адказнасць за выкананне тых выбраных найгалоўнейшых пунктаў стратэгіі, поспех будзе бясспрэчны. Тады з часам родная мова не толькі загучыць, але і запануе ў Беларусі. І ў выніку створыцца мяжа. Мяжа, якая будзе больш натуральная і мацнейшая за любую палітычную ці эканамічную мяжу, а гэта мяжа моўная.

**Жыве беларуская мова! Жыве Беларусь!**





# Беларуская мова ў ВНУ Беларусі

Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь
Установа адукацыі
«БЕЛАРУСКІ ДЗЯРЖАЎНЫ УНІВЕРСІТЭТ ІНФАРМАТЫКІ І РАДЫЁЭЛЕКТРОНІКІ»
220013 г. Мінск, вул. П. Броўкі, 6
р/р 3622013280028 ф-л 508
АСБ «Беларусбанк», Код 610
Тел. (0172) 32 04 51 Fax. (0172) 31 09 14
e-mail: kanc@cw.bsuir.unibel.by

Министерство образования Республики Беларусь
Учреждение образования
«БЕЛОРУССКИЙ ГОСУДАРСТВЕННЫЙ УНИВЕРСИТЕТ ИНФОРМАТИКИ И РАДИОЭЛЕКТРОНИКИ»
220013 г. Минск, ул. П. Бровки, 6
р/с 3622013280028 ф-л 508
АСБ «Беларусбанк», Код 610
Тэл. (0172) 32 04 51 Fax. (0172) 31 09 14
e-mail: kanc@cw.bsuir.unibel.by

17.05.2001 г. № 2901/659-01
на № 229 ад 19.04.2001 г.

**Грамадскае аб'яднанне "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны"**
**Старшыні Алегу Трусаву**
**220005, г. Мінск, в. Румянцава, 13**

**Паважаны Алег Анатолевіч!**

Беларускі дзяржаўны універсітэт інфарматыкі і радыёэлектронікі ажыццяўляе падрыхтоўку спецыялістаў па 17 спецыяльнасцях. На шасці факультэтах дзённай формы навучаецца больш за 6000 студэнтаў.

**Факультэт кампутарнага праектавання рыхтуе спецыялістаў па чатырох спецыяльнасцях:**

- Праектаванне і тэхналогія электронных вылічальных сродкаў.
- Праектаванне і вытворчасць радыёэлектронных сродкаў.
- Электронна-аптычнае апаратабудаванне.
- Медыцынская электроніка.

**Факультэт інфармацыйных тэхналогій і кіравання – па трох спецыяльнасцях:**

- Аўтаматычнае кіраванне ў тэхнічных сістэмах.
- Аўтаматызаваныя сістэмы апрацоўкі інфармацыі.
- Штучны інтэлект.

**Факультэт радыётэхнікі і электронікі – па трох спецыяльнасцях:**

- Радыётэхніка.
- Радыётэхнічныя сістэмы.
- Мікраэлектроніка.

**Факультэт кампутарных сістэм і сетак – па трох спецыяльнасцях:**

- Вылічальныя машыны, сістэмы і сеткі.
- Праграмнае забеспячэнне інфармацыйных тэхналогій.
- Інфарматыка.

**Факультэт тэлекамунікацый – па двух спецыяльнасцях:**

- Тэлекамунікацыі сістэмы.
- Метралогія, стандартызацыя і сертыфікацыя.

**Эканамічны факультэт – па двух спецыяльнасцях:**

- Эканоміка і кіраванне на прадпрыемстве.
- Маркетынг.

На першым курсе, студэнты усіх спецыяльнасцяў вывучаюць, як гэта прадугледжана рабочымі вучэбнымі планамі, дысцыпліну "Беларуская мова (прафесійная лексіка)".

Курс "Гісторыя Беларусі" для усіх студэнтаў усіх спецыяльнасцяў выкладаецца на беларускай мове.

На беларускай мове праводзяцца семінарскія заняткі па курсу "Паліталогія".

Некаторыя дысцыпліны фундаментальнага блоку, напрыклад "Вышэйшая матэматыка", для студэнтаў спецыяльнасці "Радыётэхніка" выкладаюцца на беларускай мове.

Падрыхтаваны (за некалькі апошніх гадоў), ці рыхтуюцца да друку падручнікі і дапаможнікі на беларускай мове. Сярод іх:

1. Русак В., Шлома Л., Ахраменка В., Крачкоўскі Л. Курс вышэйшай матэматыкі: Алгебра і геаметрыя. Аналіз функцый адной зменнай.: Падручнік для ВНУ.
2. Русак В., Шлома Л., Ахраменка В., Крачкоўскі Л. Курс вышэйшай матэматыкі: Функцыі некалькіх зменных. Інтэгральнае злічэнне. Шэрагі.: Падручнік для ВНУ.
3. Майсеня Л. Курс вышэйшай матэматыкі. Функцыі комплекснай зменнай (рыхтуецца да друку).
4. Гісторыя Беларусі: ад старажытных часоў – 1997 г.: У 2 ч.: Вучэбны дапаможнік для ВНУ, пад рэд. Я. К. Новіка, Г. С. Марцуля.
5. Гісторыя Беларусі: ад старажытных часоў – 2000 г.: У 2 ч.: Вучэбны дапаможнік для ВНУ, пад рэд. Я. К. Новіка, Г. С. Марцуля. – 2-е выд.
6. Гісторыя Беларусі: канец ХУІІІ ст. – 1996 г.: Вучэбны дапаможнік для вучняў ХІ кл. агульнаадукацыйнай школы, пад рэд. Е. К. Новіка, В. А. Цяпловай.
7. Гісторыя Беларусі: канец ХУІІІ ст. – 1999 г.: Вучэбны дапаможнік для вучняў ХІ кл. агульнаадукацыйнай школы, пад рэд. Е. К. Новіка.
8. Марцуль Г. С. Беларусазнаўства: Вучэбны дапаможнік для выкладчыкаў і студэнтаў.
9. Марцуль Г. С., Сташкевіч М. С. Гісторыя Беларусі: насельніцтва. Фарміраванне і вызначэнне этнічных і дзяржаўна-адміністрацыйных межаў. Беларускае замежжа: Вучэбны дапаможнік для выкладчыкаў і студэнтаў. Выд. 2-е.
10. Паліталогія: Вучэбны дапаможнік. Аўт. Кал.: Э.А.Забродскі, Л.К. Сінякоў, В.П. Нікіцін і інш. У 3 ч.:
    Ч.1. Тэарэтыка-метадалагічныя асновы паліталогіі.
    Ч.2. Палітычная сістэма грамадства.
    Ч.3. Палітычная дзейнасць і палітычныя адносіны.

**Рэктар М.П. Батура.**

РЭСПУБЛІКА БЕЛАРУСЬ
Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання
ВІЦЕБСКАЯ ОРДЭНА "ЗНАК ПАШАНЫ" ДЗЯРЖАЎНАЯ АКАДЭМІЯ ВЕТЭРЫНАРНАЙ МЕДЫЦЫНЫ
210602, г. Віцебск, вул. 1-я Даватара, 7/11
тэл. 37-20-37, 37-04-28; факс 37-02-84

РЕСПУБЛИКА БЕЛАРУСЬ
Министерство сельского хозяйства и продовольствия
ВИТЕБСКАЯ ОРДЕНА "ЗНАК ПОЧЕТА" ГОСУДАРСТВЕННАЯ АКАДЕМИЯ ВЕТЕРИНАРНОЙ МЕДИЦИНЫ
210602, г. Витебск, ул. 1-я Доватора, 7/11
тел. 37-20-37, 37-04-28; факс 37-02-84

№ [illegible] от [illegible]
На [illegible] от [illegible]

**Старшыні Грамадскага аб'яднання "Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны" Трусаву А.**

Паведамляем, што ў 2001-2002 навучальным годзе ў Віцебскай дзяржаўнай акадэміі ветэрынарнай медыцыны не прадугледжваецца навучанне на беларускай мове, таму што большасць падручнікаў па спецыяльных дысцыплінах ветэрынарнай медыцыны і заатэхніі на гэты час выдадзены на рускай мове. Аднак у акадэміі вядзецца планавая праца для навучання з цягам часу і на беларускай мове. у навучальныя планы і праграмы абодвух факультэтаў (ветэрынарная медыцына і заатэхнія) уведзены курсы беларускай мовы з ухілам на прафесійную лексіку ў аб'ёме 60 гадзін са здачай экзамену. Акрамя гэтага вучонымі акадэміі падрыхтаваны наступныя навучальныя і даведачныя кіраўніцтвы, метадычныя ўказанні на беларускай мове:

Ветэрынарная энцыклапедыя (Пад рэдакцыяй прафесара А. І. Ятусевіча). – Мн.,1995. – 1020с.

А. І. Ятусевіч. Пратазойныя захворванні сельскагаспадарчых жывёл. – Мн.,Ураджай. 1993.-174с.

А. І. Ятусевіч, В. М. Капліч. Слоўнік заапаразіталагічных тэрмінаў. –Мн., Наука і тэхніка. 1993. –292с.

А. І. Ятусевіч, М. П. Карасёў, М. В. Якубоўскі. Паразіталогія і інвазійныя захворванні жывёл. –Мн., Ураджай.1998.-464с.

Тлумачальны слоўнік-даведнік па ветэрынарыі і заатэхніі. /А. І. Ятусевіч, С. С. Абрамаў, В. М. Лемеш і інш.- Мн., Ураджай.1992.-312с.

Асновы сельскай гаспадаркі: Вучэбны дапаможнік у 2 ч. Ч.2. Паляводства, гароднінаводства, садаводства, жывёлагадоўля. /В. А. Каракасаў, А. С. Арлоўскі, У. Л. Фядотаў, А. А. Лазоўскі: Пад рэд. У. Л. Фядлотава. – Мн., Ураджай. 1998. –327с.

Метадычныя указанні і кантрольная работа па курсу беларускай мовы для студэнтаў факультэта завочнага навучання. /Курдзека Ж. П., Засінец Ю. У., Самсановіч І. А.. – Віцебск.2000 – 14 с.

Метадычныя указанні па правядзенню практычных заняткаў з элементамі дзелавых гульняў на тэму: "Арганізацыя паўнацэннага кармлення кароў і свінаматак. /І. Я. Пахомаў, М. П. Разумоўскі. – Віцебск.1984

**Рэктар А. І. Ятусевіч.**
*(Пераклад з рускай.)*

МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ
БЕЛАРУСКАЯ ДЗЯРЖАЎНАЯ АКАДЭМІЯ МУЗЫКІ

МИНИСТЕРСТВО КУЛЬТУРЫ РЕСПУБЛИКИ БЕЛАРУСЬ
БЕЛОРУССКАЯ ГОСУДАРСТВЕННАЯ АКАДЕМИЯ МУЗЫКИ
220030, г. Минск, Интернациональная, 30
Тел. 227-49-42, 227-11-03, 226-19-96, 226-06-70, 227-38-53
Тел./факс: 206-55-01
г. Минск

Ад 14.05.2001 № 01-15/607
На № 220 ад 19.04.2001 г.

**Старшыні ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны" сп.Трусаву А.**

Беларуская дзяржаўная акадэмія музыкі паведамляе наступнае:

1. Пастаянна ідзе набор па спецыялізацыі "Музычная беларусістыка".
2. Чытаюцца курсы на беларускай мове па:
   - гісторыі музычнай культуры Беларусі;
   - гісторыі беларускай музыкі;
   - літургічнай культуры Беларусі;
   - беларускаму музычнаму фальклёру;
   - нотнай транскрыпцыі музыкі вуснай традыцыі;
   - беларускай народна-інструментальнай музычнай культуры;
   - традыцыйнай музычнай культуры свету;
   - музычнаму крыніцазнаўству Беларусі;
   - этнамузыкалогіі Беларусі;
   - этнаграфіі Беларусі;
   - філасофска-эстэтычнай думцы Беларусі.
3. У вучэбныя планы ўведзена дысцыпліна "Беларуская мова".

Калектыў БДАМ лічыць неабходным працягваць работу па зберажэнні і развіцці беларускай мовы, як выкладзена ў праекце стратэгіі развіцця беларускай мовы ў XXI ст.

**Прарэктар па вучэбнай рабоце А. Ф. Рашчупкін.**

Міністэрства аховы здароўя Рэспублікі Беларусь
ВІЦЕБСКІ ДЗЯРЖАЎНЫ ОРДЭНА ДРУЖБЫ НАРОДАЎ МЕДЫЦЫНСКІ УНІВЕРСІТЭТ
210602, г. Віцебск, пр-т Фрунзе, 27.

Министерство здравоохранения Республики Беларусь
ВИТЕБСКИЙ ГОСУДАРСТВЕННЫЙ ОРДЕНА ДРУЖБЫ НАРОДОВ МЕДИЦИНСКИЙ УНИВЕРСИТЕТ
210602, г. Витебск, пр-т Фрунзе, 27.
Канцелярия 37-22-34, бухгалтерия 37-20-84.

**Старшыні Грамадскага аб'яднання "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" А.А. Трусаву.**
**220005, г. Менск, вул.Румянцава, 13**

Паважаны Алег Анатольевіч!

На Ваш ліст ад 19.04.2001 г. № 235 паведамляем:

1. На факультэце прафарыентацыі і даВНУшнай падрыхтоўкі ажыццяўляецца паглыбленае вывучэнне беларускай мовы для падрыхтоўкі слухачоў да паступлення ў ВНУ Рэспублікі Беларусь.

2. Пры паступленні ў універсітэт на лячэбна-прафілактычны, фармацэўтычны і стаматалагічны факультэты ўсе абітурыенты, паводле жадання, здаюць экзамены па беларускай мове, у тым ліку па агульнай хіміі і біялогіі.

3. Усе студэнты універсітэта, якія не вывучалі ў сярэдняй школе беларускую мову, вывучаюць яе ў аб'ёме не менш 72 гадзін.

Аснова: Ліст начальніка Галоўнай управы вышэйшай адукацыі "Аб рэалізацыі вышэйшымі навучальнымі ўстановамі загада Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь ад 29.04.98 г. № 243 В. М. Дабранскага.

4. Выкладанне гісторыі Беларусі (у канстэксце сусветнай цывілізацыі) – 90 гадзін і прыём экзаменаў на ўсіх факультэтах універсітэта ажыццяўляецца на беларускай мове.

Праграма для ВНУ прадугледжвае больш паглыбленае вывучэнне беларускай мовы, авалодванне практычнымі навыкамі, культурай пісьма, стасункаў і авалодванне медычнай тэрміналогіяй на беларускай мове.

У сувязі з гэтым неабходна пашырыць выданне навучальнай і метадычнай літаратуры, спецыяльных слоўнікаў на беларускай мове. У выданнях перыядычнага друку часцей публікаваць матэрыялы медычнай тэматыкі на беларускай мове.

**Рэктар універсітэта,**
**член-карэспандэнт Бел.АМН, прафесар А.М.Касінец.**
*(Пераклад з рускай.)*

Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання Рэспублікі Беларусь
ГРОДЗЕНСКІ ДЗЯРЖАЎНЫ АГРАРНЫ УНІВЕРСІТЭТ
Адрас: вул.Церашковай, 28, 230008, г.Гродна
Тэлефоны: прыёмная (0152) 72-13-65, канцылярыя (0152)47-14-66, факс (0152)72-13-65
E-mail: niwa@selhoz.belpak.grodno.by
Р/р 3620000000154 філіял 405 у АСБ "Беларусбанк", код 506

Министерство сельского хозяйства и продовольствия Республики Беларусь
ГРОДНЕНСКИЙ ГОСУДАРСТВЕННЫЙ АГРАРНЫЙ УНИВЕРСИТЕТ
Адрес: ул. Терешковой 28, 230008, г. Гродно
Телефоны: приёмная (0152) 72-13-65, канцелярия (0152)47-14-66, факс (0152)72-13-65
E-mail: niwa@selhoz.belpak.grodno.by
Р/с 3620000000154 Филиал 405 в АСБ "Беларусбанк", код 506

22.05.2001 г. № 01-24/325

**Старшыні ГА "ТБМ імя Ф.Скарыны" сп. А. Трусаву.**

На Ваш запыт адносна стварэння беларускамоўных плыняў пад час падрыхтоўкі спецыялістаў з вышэйшай адукацыяй Гродзенскі дзяржаўны аграрны універсітэт паведамляе наступнае:

1) У сувязі з тым, што кантрольнымі лічбамі прыёму ў бягучым годзе прадугледжана залічыць на першыя курсы па 9 спецыяльнасцях і спецыялізацыях толькі 375 чалавек, ажыццявіць набор у беларускамоўныя групы не прадстаўляецца магчымым. Болей таго, універсітэт пастаянна закупляе вучэбную літаратуру за мяжой, і перш за ўсё ў Расіі. Менавіта там яна можа выдавацца значна большымі тыражамі і, вядома ж, абыходзіцца для нас таней. Рыхтаваць жа падручнікі на беларускай мове і выдаваць іх тыражамі 100-200 экзампляраў не зможа нават Ваша паважанае таварыства.

2) Мы рыхтуем тэхнолагаў палёў і ферм, а не спецыялістаў гуманітарнага профілю і на першае месца ставім іх прафесійныя якасці. Болей таго, 80-100 студэнтаў універсітэта штогод праходзяць практыку ў Германіі, Польшчы, Галандыі, Англіі і другіх краінах далёкага замежжа. Пераход на беларускую мову значна ускладніць або зробіць нават немагчымым далейшае супрацоўніцтва і, зразумела ж, не будзе спрыяць павышэнню якасці падрыхтоўкі.

Такім чынам, калі ставіць на першы план інтарэсы дзяржавы, размова пра беларускамоўныя плыні заўчасная. З другога боку, ніхто не адмаўляецца ад ужывання беларускай мовы ў сістэме адукацыі. Проста ўжыванне мовы і выкладанне на ёй – не адно тое ж, ці не так?

**З павагай, першы прарэктар ГДАУ Л. У. Жучко.**





# Свята беларускай песні і паэзіі ў Бабруйску

Ціхім надвячоркам 2 чэрвеня на беразе Беразіны ў гаёчку пад Бабруйскам сабраліся з паўсотні бабруйцаў на чацвёрты рэгіянальны конкурс беларускай паэзіі і бардаўскай песні. Адны наважыліся паказаць публіцы сваё паэтычнае ці спеўнае майстэрства, іншыя прыйшлі паслухаць, прыглядзецца, магчыма прымераць узровень мясцовых паэтаў на сябе, бо рыфмаваць словы спрабуе шмат хто і амаль кожны з іх хоча ўдасканальваць гэтыя навыкі, што без падобных кантактаў з іншымі словатворцамі немагчыма.

Мне не раз даводзілася чуць крытычныя выпады ў бок самадзейнай рыфматворчасці – мауляў, мовы як след не вывучылі, а ўжо ў паэты імкнуцца, паэзія – гэта нешта высокае, да чаго не ўсякаму дадзена дацягнуцца, навошта ж раздувацца жабе да памераў быка і да т.п. Магчыма, кропля слушнага ў гэткіх выпадах ёсць, але, на мой погляд, няслушнага больш.

Мова наша настолькі мілагучная і напеўная, што міжвольна выклікае ў тых, хто больш ці менш добра авалодаў ёю, памкненні да ўпрыгожвання свайго маўлення, да ўдасканальвання сваёй мовы, да пранікнення ў яе глыбінныя магчымасці. Натуральна, што першыя вынікі такіх памкненняў далёкія ад высокай моватворчасці. Яны грашаць і засмечанасцю мовы чужацкімі словамі і словазваротамі, і звычайнай граматычнай неадукаванасцю і шмат іншым. Але – без падобных практыкаванняў мову лепшай не зробіш. І тады ты асуджаны слухаць вакол помесь трасянкі з брыдкаслоўем.

Гадоў сем-восем таму мне давялося слухаць выступленне ў вялікай зале аднаго выкладчыка ВНУ на недасканалай беларускай мове. І нехта з слухачоў не стрымаўся, выкрыкнуў: "Калі не ведаеце беларускай мовы, дык лепш ёю не карыстайцеся!" Я дапускаю, што рэпліка была выклікана самымі добрымі намерамі, але гэты крык не меў рацыі: калі не карыстацца мовай, дык ніколі не засвоіш яе. З гэткім жа поспехам можна крыкнуць чалавеку, які, ачуняўшы пасля траўмы, пачынае вучыцца хадзіць на мыліцах ці трымаючыся за парэнчы: "Калі не ўмееш добра хадзіць, дык лепш не хадзі зусім!"

Я спачувальна стаўлюся і да выдання мясцовых зборнікаў паэзіі, у якіх паэзіі і нават добрай мовы зусім няшмат, і да рэгіянальных "паэтычных майстроўняў", дзе паэзіі вучыць нехта з тых, хто надрукаваў пару вершыкаў у раённай газеце, і да адпаведных конкурсаў, фэстаў ды інш. Наўрад ці трэба насмешнічаць ці здзекавацца з гэтых людзей. Лепш паспрабаваць нечым дапамагчы ім. Гэта – закід да тых, хто ўжо спазнаў асобныя таямніцы паэзіі і стварыў вершатворы, за якія не сорамна перад роднай мовай.

Не трэба баяцца вялікага натоўпу ля падножжа Парнасу – тым большы гонар будзе таму, хто ўзбярэцца на гэтую гару.

З такімі думкамі я ехаў на бабруйскае "Вольнае вогнішча – 2001" (такую назву далі сёлетняму конкурсу).

Паспаборнічаць у конкурсе рызыкнулі 7 вершатворцаў і 5 спевакоў. Журы, якое складалася з пяці аматараў паэзіі і арыентавалася ў сваіх ацэнках натуральна толькі на ўласныя меркаванні, вызначыла па тры пераможцы. Імі сталі:

- у намінацыі "Паэзія" – Маліноўскі Віктар (І месца), Чарненка Святлана (ІІ месца) і Спасюк Рыгор (ІІІ месца).
- у намінацыі "Песня" адпаведна – дуэт "Груган" (Гаркавенка Раман і Аўдзеенка Кастусь, па абрэвіятуры лепш назваць "ГРАК"), Спасюк Рыгор і Грынявецкі Юрась.

Пераможцы атрымалі прызы і прыгожа аформленыя дыпломы. Далей усе прысутныя цешыліся размовамі, печанымі салам і бульбай, шашлыкамі, вершамі ды песнямі найперш у выкананні нястомнай Святланы Чарненкі. Маленькае свята беларускай песні і паэзіі доўжылася ўсю ноч і скончылася толькі на світанку.

Пра што пяюць сённяшнія прэтэндэнты ў барды і паэты? Найперш пра смутак і боль Беларусі, пра чарнобыльскае гора, пра складаны лёс дзяржавы і яе мовы, але праз гэтае набалелае прабіваюцца парасткі чыстай лірыкі і грамадзянскай паэзіі. Пішуць пра вечнае – пра каханне, пра Хрыста, пра зорнае неба; пішуць і пра мімалётнае, мітуслівае, напрыклад пра выбары-2001.

В. Маліноўскі залагодзіў сяброў журы тым, што Вера, Радзіма, Сям'я яго сэрцу наймілейшыя і шчасця яго спадарожныя.

*І ў малітвах сваіх*
*Голас душы ўзносячы,*
*Дзякую тройчы за іх,*
*Тройчы за іх просячы.*

З ім згодны і Р.Спасюк: сям'я ёсць самае галоўнае ў чалавека. Што не замінае яму ўсё ж любавацца "далёкіх зор святлом нязгасным". Журы і гледачы ацанілі і гумар Рыгора, асабліва ў яго песнях.

С. Чарненка прысвяціла свой верш 200-годдзю Адама Міцкевіча, які прыцягнуў яе ўвагу тым, што "не цураўся мовы нашай роднай, яе найпрыгажэйшаю лічыў". А яшчэ прачытала ўрывак з гумарной паэмы пра чорта, які панадзіўся заходзіць да бабулі ў дзень атрымання пенсіі і забіраў тую пенсію. У канцы выявілася, што пад выглядам чорта быў п'яніца-сусед. Досыць актуальная паэма.

На заканчэнне адзначым, што гэты конкурс, як і папярэднія, зладжаны бабруйскімі суполкамі ТБМ і ТБШ. Пажадаем арганізатарам плёну і нястомнасці на абраным шляху.

*Міхась Булавацкі.*

# ДЗЕ ЗАВАДСКІ?

Год таму, 7 ліпеня 2000 г. знік наш калега, вядомы тэлеаператар

Дзмітрый Завадскі

**Ён здымаў у Чачні, але быў захоплены ў Беларусі. За што? Дзе зараз Дзмітрый Завадскі? Хто менавіта так выкарыстаў ужо год жыцця Дзімы і яго сям'і?**

***Беларуская Асацыяцыя Журналістаў патрабуе праўды пра лёс калегі!***

## *Калі за адраджэнне мовы, чытай, спадарства, "Наша слова"!*

***Шаноўнае спадарства! Ідзе падпіска на газету "Наша слова" на трэці квартал. Цана вырасла нязначна. Мы і толькі мы забяспечым вас усёй інфармацыяй па праблемах беларускай мовы ў нашай краіне. За 1644 рублі вы будзеце штотыднёва мець у сваёй хаце самую беларускую газету на Беларусі на працягу паўгода.***

***Сакратарыят ТБМ нагадвае кіраўнікам структураў ТБМ, што газета "Наша слова" з'яўляецца афіцыйнай газетай нашага Таварыства. Яна мае магчымасць і жаданне адлюстроўваць усю вашую працу на сваіх старонках. Ад вас патрабуецца толькі даслаць адпаведную інфармацыю.***

Ф. СП - 1

Міністэрства сувязі Рэспублікі Беларусь

**АБАНЕМЕНТ** на газету / часопіс **63865** (індэкс выдання)

***НАША СЛОВА*** (назва выдання)

На 2001 год па месяцах:

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | X | X | X | | | |

Куды (паштовы індэкс) (адрас)

Каму (прозвішча, ініцыялы)

**ДАСТАВАЧНАЯ КАРТАЧКА**

| ПВ | месца | літар |
|---|---|---|

на газету / часопіс **63865** (індэкс выдання)

***НАША СЛОВА*** (назва выдання)

| Кошт | падпіскі | 822 руб. | Колькасць камплектаў | 1 |
|---|---|---|---|---|
| | пераадрасоўкі | руб. | | |

На2001 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | X | X | X | | | |

Куды (паштовы індэкс) (адрас)

Каму (прозвішча, ініцыялы)

# КОНКУРС школьных і вучнёўскіх газет

Рэспубліканскае грамадскае аб'яднанне "Таварыства беларускай школы" праводзіць конкурс школьных (афіцыйных) і вучнёўскіх газет. Да ўдзелу ў ім прымаюцца ад рэдкалегій ці рэдактараў не менш двух асобнікаў выдання за апошнія 5 год (не менш аднаго з іх за 2001 г.). Газеты (брашуры, часопісы і г.д.) могуць мець адвольны фармат і афармленне (ад рукапіснага да кампутарнага). Пры падвядзенні вынікаў конкурсу асноўны прыярытэт будзе надавацца тым выданням, у якіх, акрамя добрага афармлення, знойдуць належнае асвятленне пытанні краязнаўства, вырашэнне надзённых праблем сваёй школы, вёскі, раёна і г.д.

У кастрычніку аўтарытэтнае журы з ліку вядомых журналістаў маладзёвых выданняў, выкладчыкаў Беларускага дзяржаўнага педагагічнага універсітэта імя Максіма Танка правядуць вынікі конкурсу і запросяць прадстаўнікоў лепшых газет у Менск, дзе пераможцы будуць ганараваны адпаведнымі дыпломамі, дыктафонамі ды інш.

Дасылайце ці прыносьце свае працы да 30 верасня 2001 г. па адрасу: 220085 Менск, пр. Ракасоўскага, 98. СШ №27. На конкурс газет. Тэл. (017) 2483202.

*Алесь Лозка, прэзідэнт ТБШ.*





Язэп Палубятка



*(Працяг. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

— Ну, та-ак ... — замармытаў у адказ Астапчык.

Крыніца ўзрадаваўся, бо разгубленнасць доктара сведчыла, што ён на правільным шляху.

— А дзе вы жывеце зараз? — з дзіцячай наіўнасцю запытаў Антон Пятровіч, нібы да гэтага часу ён ведаў доктара сто гадоў і толькі апошні — так склаліся абставіны — не бачыліся.

— На Пясочнай вуліцы ў бабкі Антолі.

— Гэта тая вуліца, што выходзіць да майго дэндрапарка.

— Мы жывем на другім яе канцы, ля самай - самай гарадской звалкі.

— Ах-ха! А колькі ў вас пакояў?

— Адзін ... Жонка з дзецьмі спіць на ложку, а я — на падлозе.

— На агульнай чарзе?

— Ужо восьмы год ...

— Вы ж малады спецыяліст!

— Калі гэта было. Той тэрмін даўнымдаўно скончыўся ўжо. Ды хто цяпер глядзіць, што ты малады спецыяліст ...

— У нас закон адзін для ўсіх пісаны, — зароў Крыніца. — І тое, што ў вас няма кватэры — гэта вялікая сацыяльная несправядлівасць. І калі я выйду адсюль, то я разберуся са старшынём гарвыканкаму. Я яму толькі загадаю і ўсё ... Дарэчы, колькі ў вас дзяцей?

— Дзве дачкі, А што?

— Значыць так. У новым доме, які будзе здавацца праз два месяцы па вуліцы Інтэрнацыянальнай, вас чакае трохпакаёвая кватэра.

— Але ж ...

— Ніякіх "але ж". Як я сказаў, так і будзе! — у голасе Крыніцы зноў адчувалася цвёрдасць і рашучасць. — Лічыце, што вашае пытанне вырашана станоўча і канчаткова.

Астапчык адразу паверыў першаму сакратару. Восем гадоў назад, калі прыехаў сюды па размеркаванню, ён згодна з правамі маладога спецыяліста вырашыў атрымаць хоць нейкі прытулак. Доўга хадзіў па шматлікіх раённых установах. Нават быў на прыёме ў самога Крыніцы. Апошні без усякіх там дыпламатычных выкрунтасаў даў яму адразу зразумець, што з'яўляецца паўналадным гаспадаром у васальным княстве другой паловы дваццатага стагоддзя і таму, як гаспадар, вядома, ён чхаць хацеў на розныя там законы. Каб выгнаць блудныя думкі з галавы маладога чалавека, Крыніца яшчэ зазначыў:"Дарэмныя твае, хлопец, клопаты. Нічога ў цябе не выйдзе".

Сказаў — як у ваду глядзеў.

Тады малады спецыяліст Сяргей Астапчык выхаваны, як большасць з нас, чэсным і праўдзівым, сутыкнуўся з суровай рэчаіснасцю і катэгарычна адмовіўся ад сваіх ранейшых поглядаў на жыццё.

— Дарэчы, як вас зваць?

— Сяргей .

— А па бацьку?

— Іванавіч.

— Сяргей Іванавіч! Мне патрэбен такі дыягназ, каб ён быў як мага болей падобны на праўдзівы. У нас будзе працаваць камісія ...

— Як доўга? Даруйце, але мне гэта неабходна ведаць для правільнага дыягназу.

— Не болей месяца.

— Толькі ракавае захворванне можа выратаваць вас, — доктар Астапчык ведаў, аб чым гаварыў, таму што ў райбальніцы даўно ўжо адсутнічаў анколаг, і ён дадаткова вёў тую групу хворых. — Я зараз афармлю гісторыю вашай хваробы і выпішу неабходныя аналізы. Не хвалюйцеся, вам не прыйдзецца хадзіць па кабінетах. Я ўсё арганізую.

Крыніцы вельмі спадабалася слова "арганізую", бо апарат, у якім ён працаваў, заўжды нешта арганізоўваў. Усё, чым апошнія дзесяць гадоў жыў раён і горад, было арганізавана. Ён, як толькі пачуў ад Астапчыка гэтае слова, яшчэ раз запэўніў сябе, што ўсё павінна скончыцца добра.

— Дзякуй! Шчыры вам дзякуй! — Крыніца зноў схапіў сваімі ручышчамі маленькую руку доктара і доўга трос яе.

— Значыць кватэру атрымаеце ў першую чаргу.

Сяргей выйшаў з палаты і ўжо, не тоячыся, доўга выціраў руку ад тлушчу аб свой халат, які цяпер стаў падобны на халат кухара.

Неспадзяваная радасць ад таго, што так хутка і проста вырашылася яго жыллёвая праблема, ускалыхнула доктара. Ён раптам забыўся пра ўсё на свеце: пра сваіх хворых, пра вячэрняе спатканне, нават пра ўчарашнюю лаянку з жонкаю. Радасць прымушала яго сэрца ўдвая хутчэй біцца і нястрымана гнаць пунсовую кроў, насычаную кіслародам, да кожнай клетачкі цела.

Радасцю, вядома, належыць дзяліцца, і Астапчык, нягледзячы на зацятае маўчанне жонкі, вырашыў патэлефанаваць і ўзрадаваць яе.

На лесвічнай пляцоўцы ён сустрэўся з Макейчыкам і Галавачом. Мужчыны нешта паспешна пачалі хаваць за пазуху і засяроджана жавалі.

У гэты раз Астапчык ужо сам рашуча падышоў да Макейчыка і патрабавальна сказаў:

— Пазыч двушку.

Мужчына доўга корпаўся ў кішэнях, пакуль урэшце не знайшоў манету ў дзесяць капеек.

— Звані, сябар!

— Для нашай медыцыны нічога не шкада.

Доктар узяў манетку ды пашыбаваў да тэлефона і нават не падзякаваў.

Вольга доўга слухала блытанае тлумачэнне свайго "каханага і роднага", пакуль урэшце не зразумела, што ён хоча сказаць, а калі зразумела — катэгарычна зазначыла:

— Дурань ты! Гэтага бугая сягоння здымаць будуць. Турнуць яго проста каленкам пад зад, а на яго месца пасадзяць новага злодзея.

Астапчык, як заўжды, не пагадзіўся з жонкаю і запярэчыў:

— А вось я зраблю так, што яго не здымуць.

Вольга, калі пачула такое, зычна рассмяялася, яшчэ раз абазвала Сяргея дурнем і паклала трубку.

X

Зранку райкам партыі нагадваў вулей. Яго трутні (двухмятровыя дзядзькі і дзесяціпудовыя цёткі), як звычайна, хадзілі шнурком, з кабінета ў кабінет і разносілі апошнія мясцовыя плёткі, дзяліліся ўражаннямі пра свае інспектарскія рэйды ў падшэфныя арганізацыі, распавядалі ўпотай, хто, адкуль і які прывёз хабар, ганілі тых, хто піў і піў без меры, зайздросцілі тым, хто гуляў і гуляў несупынна, узнёсла гаварылі пра тых, хто краў і нікога не баяўся. Усё гэта не мела ніякага дачынення да іх службовых абавязкаў.

То быў біялагічна рэдкі тып гультаёў, якія не толькі нічога не робяць, але ганарацца тым і прымушаюць іншых брацъ з іх прыклад.

Адсутнасць Крыніцы ніхто не заўважыў. Не заўважыў не таму, што ўсе былі заняты руплівою працаю, а таму, што нікому не было ніякай патрэбы да Крыніцы. У кожнага партыйнага функцыянера быў свой творчы план, і ён здзяйсняў яго, як умеў.

На адсутнасць Крыніцы не звярнулі ўвагі ні другі сакратар райкама партыі, ні трэці сакратар. Сярод просталюдзінаў і нават партзнакамітых асоб апошняя звалася сакратаркай, паколькі на гэтую пасаду заўжды прызначалі жанчыну.

Дзікі страх ахапіў працоўны люд райкама, калі яны выпадкова даведаліся, што ў такі ранішні час зусім неспадзявана з'явіўся тут былы першы сакратар абласнога камітэту партыі, грозны некалі таварыш Салавейчык. Ад яго адзінага позірку калаціліся мужчыны і гублялі прытомнасць жанчыны, хоць за вочы ўсе называлі яго проста і нават ласкава — Толік.

Па старой звычцы ён і цяпер яшчэ адчыняў дзверы ўсіх кабінетаў нагою і спалоханаму субяседніку, нібы то быў даўнішні яго сябар, зусім не па-сяброўску роў сваё вечнае: "Прывітанне" — быццам іншага слова для гэтага не існавала.

Таварыш Салавейчык, як толькі даведаўся пра тое, якія чорныя хмары навіслі над яго найлепшым сябрам партыі, вырашыў дапамагчы таварышу Крыніцы. Нягледзячы на тое, што таварыш Салавейчык быў на пенсіі, але ўсё ж меў уплыў на вышэйшае кіраўніцтва, бо нават і па сённяшні дзень лічыўся сябрам таварыша Саколіка, які так удала запраўляў перабудоваю, і дапамагаў таварышу Саколіку душыць адраджэнцаў, каб яны ніколі не адрадзіліся.

Ноч у Салавейчыка была бяссоннай і прайшла ў вялікім клопаце, і клопат быў недарэмны. Таварыш Салавейчык дасягнуў вялікіх поспехаў. Пра тое, як таварышу Салавейчыку ўдалося "дасягнуць вялікіх поспехаў", гісторыя сарамліва маўчыць. Але, як там ні было, ён прывёз з сабою дакумент, згодна з якім першы сакратар раённага камітэта партыі таварыш Крыніца Антон Пятровіч з сягоннешняга дня лічыцца на заслужаным адпачынку і, прытым, быў пенсіянерам рэспубліканскага значэння.

Акрамя гэтага, таварыш Салавейчык прывёз з сабою яшчэ адзін дакумент (асабісты падарунак свайму партсябру), які красамоўна сведчыў, што таварыш Крыніца А.П. "за шматгадовую і плённую працу, самаадданае служэнне народу" узнагароджваецца ордэнам "Знак пашаны".

Шмат спраў зрабіў за кароткую травеньскую ноч таварыш Салавейчык, але, на яго думку, асноўная праца была наперадзе. Трэба было раскухтарыць мясцовых дармаедаў, каб да прыезду камісіі яны паспелі правесці паседжанне бюро, затым тэрмінова сабралі пленум раённага камітэта партыі, а, урэшце, калі атрымаецца, арганізавалі належныя провады такога шаноўнага чалавека на заслужаны адпачынак.

У гэтым ён меў рацыю.

Ні другі сакратар райкама партыі, ні наменклатурная сакратарка не ведалі і нават не здагадваліся, аб чым і імі будзе весці гаворку грозны Толік, і па той старой звычцы пабойваліся яго.

Салавейчык паводзіў сябе па-начальніцку і, як у былыя часы, выпрабоўваў на моц сваіх суразмоўцаў зацятым маўчаннем, якое звычайна цягнулася некалькі хвілін. Яго суразмоўцы таксама звычайна маўчалі, а ў душы рыхтаваліся да няроўнага паядынку, бо са свайго шматгадовага досведу ведалі, што зараз на іх пачнуць крычаць і тупаць нагамі — інакш размаўляць гэты чалавек не ўмеў.

Пенсіянер Салавейчык не стаў крыкам мацаваць сваю нервовую сістэму, бо прыйшоў да высновы, што справу гэтую зрабіў на "выдатна", а ўсё астатняе — дробязі! Псаваць сваю дабротную пунсовую кроў на дробязі ён не збіраўся.

— Ну што, арлы мае! — субяседнікі вінавата апусцілі галовы, чакаючы, што зараз іх стануць абзываць мокрымі курыцамі, але Салавейчык абняў іх за плечы і заспяваў зусім іншую песню: — Час не чакае, як сказаў нейкі паэт, але я хачу яго істотна дапоўніць. Я хачу сказаць, што ён бязлітасны да нас, старых. Дакладней кажучы, ён робіць нас старымі, і таму бязлітасны. У-ду-май-це-ся! Ён не шкадуе свайго здароўя, увесь аддае сябе працы ... Працы у імя чалавека! .. Ён змагаецца са злом ва ўсіх яго праявах на карысць нашай вялікай дзяржавы ... Яму заўжды здавалася, што ён шмат чаго не здзейсніў, не паспеў да канца раскрыць свае здольнасці, а прыйшоў час і яму гаворыць: "Вам пара адпачываць". Вы мяне прабачце, але я, папершае, не рыхтаваўся да выступлення, гавару без паперкі, і таму, магчыма, крыху блытана ... Я спадзяваюся, што вы зразумелі, пра каго ідзе гаворка ...

Другі сакратар райкама партыі таварыш Ваўчыцкі не ведаў, пра каго вядзе блытаную гутарку іх былы шэф, бо лічыў, што яго так рана на пенсію не адправяць — праўда, ён гэтаму быў бы вельмі рады.

І ўвогуле, Ваўчыцкі не слухаў, пра каго гаварыў Салавейчык, а, сцяўшы зубы, цярпеў боль у сваім страўніку. Акрамя страўніка, яго даймала яшчэ грыжа. Гэтыя зусім не кабінетныя хваробы Ваўчыцкі прыдбаў яшчэ ў маладосці, калі ўдарна працаваў трактарыстам у калгасе. Працаваў і вучыўся адначасова ...

... Былы старшыня перадавога калгаса Ваўчыцкі і па сённяшні дзень лічыў, што тады, калі паддаўся ўгаворам Крыніцы і даў згоду перайсці працаваць на райкамаўскую пасаду, учыніў вялікае глупства.

... Выбралі яго аднагалосна ...

Непаразуменні пачаліся адразу. Шырокая сялянская натура Ваўчыцкі ніяк не магла ўцісну́цца ў вузкія кабінетныя рамкі.

Ваўчыцкі, калі яго сям'я пераехала ў горад жыць, адразу стаў весці "культурны лад жыцця". Такі тэрмін ён прыдумаў сам і лічыў, што ўсе гарадскія — выключна культурныя людзі. Ён наведваўся ў кіно, вечарам шпацыраваў па вуліцы, хадзіў глядзець мясцовы футбол. Усюды яны з жонкаю былі ўдваіх і абавязкова пад ручку. Праз месяц да яго ў кабінет завітала прадстаўнічая мужчынская дэлегацыя, у складзе якой былі кіраўнікі ўсіх аддзелаў, усе інструктары, а таксама райвыканкамаўскія службы. За прагулкі пад руку з жонкаю яны прад'явілі Ваўчыцкаму ўльтыматум, каб болей так не рабіў, бо такімі паводзінамі ён ганьбіць мужчынаў, а ўзамен параілі завесці каханку і прапанавалі некалькі кандыдатур на выбар. Ваўчыцкі ад каханкі адмовіўся, але хадзіць з жонкаю пад ручку перастаў, а ўрэшце, плюнуў на свой "культурны лад жыцця".

Тым не менш жаданне кіпучай дзейнасці не пакідала новага партфункцыянера, і тады Ваўчыцкаму захацелася даведацца, як і чым жыве просты чалавек гэтага маленькага раённага горадка. Аднойчы ўвечары ён далучыўся да мужчынскай кампаніі, якая ў двары іх шматпавярховага дома гуляла кожны вечар у карты. Адзін жартаўнік заўважыў сярод глядачоў вялікае начальства, вырашыў пацешыцца і прапанаваў яму сваё месца. І той сеў. З прысутных хтосьці ціха здзівіўся, хтосьці кісла ўсміхнуўся, хтосьці агокнуў, але калі другі сакратар райкама партыі стаў раздаваць налева ды направа " дурняў", прысутныя здзівіліся яшчэ болей і перасталі агокаць. Прыйшоў Ваўчыцкі сюды і на другі дзень.

На трэці дзень прыціхлы жартаўнік у канцы гульні нясмела запытаў у Ваўчыцкага:

— Хлопцы тут па рублю скінуліся ... Пляшку купілі ... Будзеце? ..

У той вечар Ваўчыцкі стаў сваім чалавекам у працоўнага люду, што жыў у доме нумар дзесяць па вуліцы Савецкай.

На чацвёрты дзень першы сакратар райкаму партыі таварыш Крыніцкі з ранку да паўдня тлумачыў паплечніку па партыі таварышу Ваўчыцкаму, дзе яму можна гуляць у карты і з кім, а ў што — не мае ніякага значэння. Тлумачыў ён неслуху і тое, з кім яму належыць піць і дзе. Норма — колькі можна выпіць — не абмяркоўвалася. Крыніца нават напісаў спіс асоб горада і раёна, з якімі Ваўчыцкаму можна праводзіць падобныя мерапрыемствы. Вядома, што ніхто з жыхароў дома за нумарам дзесяць па вуліцы Савецкай у той спіс не трапіў.

Не стаў болей Ваўчыцкі гуляць са сваімі суседзямі ў карты, не стаў болей "душыць з імі чарвяка" у падвале дома, але ўсё роўна з таго часу яго аўтарытэт сярод гэтых людзей заставаўся вялікім і свабодныя дэмакратычныя выбары гарантавалі б яму перамогу.

*(Працяг у наступным нумары.)*



# 22 чэрвеня 60 гадоў з дня пачатку Вялікай Айчыннай вайны

**Інтэрвію з Клемантовічам Пятром Ігнатавічам, жыхаром в. Нарач Мядзельскага раёна запісана 25 жніўня 1999 г. студэнтам гісфака БДУ В. В. Прэўрацкім**

**П.В.:** - *Раскажыце, калі ласка, дзе нарадзіліся?*

**К.П.:** - 1922 года 22 чэрвеня ў вёсцы Рэчкі Даўгінаўскай гміны, повяту Вілейскего, ваяводства Віленьске. Так пры Польшчы называлася.

**П.В.:** - *А хто бацькі былі?*

**К.П.:** - Зараз скажу пра бацю свайго. Бацька мой быў пры цары прапаршчык. У час вайны з немцамі ў 1914 г. яго забралі на фронт. Трапіў у Германію, быў у палоне. Калі з палону вярнуўся, ужо палякі біліся з бальшавікамі. Тады ён быў з маткай маёй ажаніўшыся. Але прыйшлі бальшавікі і ў армію забралі. Камісарам быў, Варшаву забіраў. А пасля як пагналі іх з Варшавы, то, можна сказаць, яны босымі ўцякалі ад палякаў. Кінуў бацька армію і з маткай маёй жыў. Пазней у Рэчках так і застаўся, бо ўжо граніца атрымалася палякаў з бальшавікамі.

У Рэчках у нас было пяць гектараў зямлі-ворыва, паўтара гектара сенакосу ля самай граніцы польска-рускай, што праходзіла па рацэ Віллі. Пару кароў трымалі, коніка. Пры Польшчы ж уласнасць дазвалялася.

А ў 1934 г. прыехаў дзядзька з Амэрыкі. Ён нам купіў дзесяць гектар зямлі ў Кабыльніку *(сучасная назва вёска Нарач – П.В.)* каля Нязнанага Жолнежу, як на Паставы едучы. Дзядька ў Амэрыцы на вайсковым заводзе працаваў, багаты прыехаў. Нас у Кабыльнік перавёз і з 34-га мы тут жывём.

У 1939 г. польска-нямецкая пачалася вайна і тады ж да нас прыйшлі бальшавікі. Міліцыя савецкая была арганізавана. Я тады быў яшчэ падшпарак, 17 ці 18 гадоў меў. Прыходзяць і мяне забіраюць на пошту працаваць. Зрабілі мне камутатар на сцяне, схема ляжала на стале і толькі з Масквы званілі.

А мяне як забіралі, то сказалі, што за тры месяцы вайна пачнецца з немцамі. З вобласці, з Маладэчна, прыехала Казакова такая, нейкі начальнік з НГБ, наган на баку, і начальнік мясцовай міліцыі з аўтаматам побач знаходзіўся. Матка з бацькам пачалі плакаць. А яны кажуць: "Нічога!.. Ён у нас давераны. Нам трэба яго на пошту, сувязь, бо ў нас з немцамі за тры месяцы пачнецца вайна". Так пры бацьках і казалі.

Аднак на пошце я там мала працаваў. Немцы як нахлынулі ў 41-м, то мяне адтуль выгналі сходу, як корак.

У Кабыльніку перш, чым з'явіліся немцы, тыдні два ўлады ніякай не было: ні немцаў, ні бальшавікоў. Пазней толькі разведка нямецкая ад Мельнікаў з'явілася і тое іх ці не пастралялі.

А як прыйшлі немцы, усюды польскія паліцыянты заступілі з ліку нарадоўцаў. Гэтыя нарадоўцы пры Польшчы супраць жыдоў змагаліся. Іх арганізацыя звалася Польска Арганізацыя Нарадова. З Кабыльніку Драгунок такі, з Вурлікаў Яцына Робарт у паліцыі нямецкай служылі...

Людзей стралялі нарадоўцы. Майго брата стрыечнага растралялі ў Чарэмшыцах. Ну, а тады беларуская паліцыя тут арганізавалася, ездзілі нейкія.

**П.В.:** - *Як жылося пры немцах?*

**К.П.:** - Прыватнаўласніцкія гаспадаркі былі. Бурмістрам быў пастаўлены Вайнцковіч.

**П.В.:** - *А з немцаў галоўны хто быў?*

**К.П.:** - Лёйтман такі. Людзей вешаў: партызана аднаго і аднаго бандыта Зубкова, які хату абкрадаў. На плошчы слуп стаяў каля пастарунку і там ён вешаў. Яшчэ палюбоўніцу сваю растраляў. Гэта Кунцэвічава перакладчыцай працавала і ён з ёй гуляў. А за што растраляў, дык не ведаю.

**П.В.:** - *А мястачковых жыдоў Лёйтман страляў?*

**К.П.:** - Гэта ўжо жандармерыя, мусіць, нарабіла. Пяць жандараў было, а паліцаі стралялі. Пастаўілі кулямёты і ўсіх пастралялі: і дзяцей, і старых, і жанчын. У Кабыльніку пры Польшчы іх ці не 360 чалавек налічвалася. Уся плошча была жыдоўская і ўсе крамы наскрозь жыдоўскія. Спо-ўдзельня, кааператыў па-нашаму, дзве пякарні таксама жыдоўскія. А яны ўсіх жыдоў кабыльніцкіх пастралялі. Яму Янкель і яшчэ некалькі жыдоў капалі. Тады і гэтых пастралялі. Некаторыя жывымі ў яму валяліся, тады дабівалі іх. Мы ж бачылі. Нас спецыяльна прыгналі, каб глядзелі. І я пайшоў.

**П.В.:** - *Што Вы можаце расказаць пра партызан?*

**К.П.:** - Была ў нас руская і была польская партызанка. Наш сусед, Крывіцкі Валодзя, у рускія пайшоў. Потым ён даўся ў бандыты, і яго растралялі пад Паставамі. Мой сябра Карчага пайшоў у польскія, Яцыны – таксама. Польскіх было настаяшча. Перш яны працавалі сумесна з рускімі, а потым аддзяліліся.

Памятаю, у 42-м быў бой у Чарэмшыцах немцаў з партызанамі. Спачатку прыехалі немцы, чалавек трыста, з Пастаў у Кабыльнік. Сабралі ў нас усе падводы, якія толькі былі, і павезлі мы немцаў у Шэматава. Далей, у Занарач яны пехатой пайшлі. Але партызанаў з зоны не выбілі. Партызаны засталіся.

Пасля ўжо самі партызаны пачалі немца ціснуць. У 1943 г. напалі на Кабыльнік за тое, што тут камендатура была, і спалілі яго. Плошчу амаль усю спалілі, жыдоўскія дамы. Жадалі, каб камендатура выехала з Кабыльніка. Тады ж і нашу хату партызаны спалілі. Спачатку сказалі, каб бацька выехаў з хаты і вокны пазабіваў. Бацька не выехаў і партызаны тады спалілі хату, бо калі б яна засталася цэлай, то нас маглі немцы спаліць за сувязь з партызанамі. Валодзя Крывіцкі хату паліў.

Партызаншчына з кожным днём моц набірала і набірала. І немца з Кабыльніка выгналі. Сіратой застаўся Кабыльнік пры партызанах. Толькі пазней, дзесці ў верасні 1943 г., немцы блакадай наляцелі, акружылі мястэчка. Хапунамі забралі моладзь і адправілі ў Германію.

Я патрапіў працаваць у чыгуначны батальён. Большасць там палякаў было, але і немцы-штрафнікі пад канвоем працавалі з намі. Мы ўсе запісаліся палякамі, бо палякаў не бралі ва ўласаўскую армію. І я пісаўся палякам, хоць я праваслаўны беларус. У Кабыльніку толькі чатыры хаты былі праваслаўныя: мая, Жоглы, Каліноўскага і Крывіцкага. Усе астатнія былі каталікі.

У батальёне чалавек сем было з Кабыльніка. Кальчынскі Антось са мной нават на адных нарах спаў.

**П.В.:** - *У якіх мясцінах працаваў гэты батальён?*

**К.П.:** - Ёсць такі горад Дно. Там былі прыпынкі Дэлька і Ямна, дзе цягнікі спыняліся. Вузкакалейку пракладалі аж да другой перадавой нямецка-савецкага фронту. Працавалі да сорак чацвёртага года.

А ў 1944 г. бальшавікі як націснулі, немцы ўжо не маглі стрываць. Бальшавікі напор вялікі давалі і давалі. Прыслалі немцы пад Старую Русу на змену сабе літоўцаў батальён ці дывізію. А літоўцы вывесілі белы сцяг і пайшлі да бальшавікоў. Ну і пагналі рускія немцаў.

Наш батальён тады загрузіў на цягнік кіркі, рыдлёўкі, і пагналі нас аж у Латвію, да Рыгі. Ёсць дзяржава Латгалія. Яна была пры немцах у акружэнні. І з Латгаліі нас усіх – палонных, рабочых сабралі на параход і ў Кёнігсберг. Выгрузілі на востраве Свінамінда. Цяпер палякі акупавалі і называецца ён Свінаўйсце. Зноў пагналі на работы акопы капаць. Працавала нас можа якіх 75 нацыянальнасцяў, акрамя англічан і амэрыканцаў. А так усе: і французы, і італьянцы. Італьянцаў жа там было да халеры за тое, што яны пайшлі і здрадзілі Гітлеру, калі Мусаліні свайго перамянілі. Для немцаў яны проста ненавісными былі. Італьянцы ў іх проста з голаду паміралі.

Аднойчы, памятаю, гоняць нас па дарозе на працу. Адзін італьянец узяў ды ўляцеў у бурт пры дарозе, дзе буракі ляжалі парэзаныя, заслюшчы. Вясной гэта было. Дык канваір яго штыхом пракалоў. Немца начальнік, канешне ж, на фронт адаслаў. Але ўсё роўна ім тады канец падыходзіў.

Пры адступленні нас не адпускалі, гналі разам з сабой. Дайшлі ледзь не да Гамбургу. А рускія заскочылі ад мора нам наперад і вызвалілі з палону.

У сорак пятым 30 мая я ўжо дамоў вярнуўся. У Германіі спачатку праверку прайшоў, а тады ў Брэсце быў у праверачным пункце. Тры начы мяне там трымалі. "Дзе быў, што рабіў?" – выпытвалі ўсё. Затым пусцілі. А Кальчынскаму Антосю, што разам на нарах спалі, сказалі: "Папрацаваў на немцаў, папрацуй і на нас". Забралі ў Маскву на будоўлю. Антось там нават брыгадзірам быў пастаўлены. Але толькі тры месяцы прабыў, а пасля ўцёк дамоў.

**П.В.:** - *Ці давялося Вам пасля вайны адчуваць голад?*

**К.П.:** - Не. У нас пасля вайны тры гады, лічы, адзінаўласніцкая гаспадарка была. Аралі сваю зямлю. Хлеба было, усяго было. Адзінаўласнікі падатак дзяржаве здавалі. Мяне Забалоцін, начальнік НКВД, паставіў падаткі прымаць. Людзі збожжа, бульбу здавалі. Склады былі завернуты! А буртоў было колькі! Я ваякам здаваў бульбу. У Паставах 5-ая Арлоўская дывізія штрафнікоў і яшчэ адна дывізія бульбу прымалі.

Пасля мяне паставілі старшынём сельпа. Тавары вазіў. Тавараў было ўволю. Толькі муку на 10 кіль па картках адпускалі.

**П.В.:** - *Калі калгас быў арганізаваны?*

**К.П.:** - Ці не ў 1949 г.? Я першы ўступіў у калгас. Тры дні сядзеў у сельсавеце і мяне там мучылі-мучылі такі Смолін, начальнік НГБ, і Забалоцін. Прыйшлося ўступіць.

**П.В.:** - *У заключэнне скажыце, калі ласка, у які час Вам найлепш жылося?*

**К.П.:** - А як я лічу, дык цяпер. Найлепей быць не можа. Я табе скажу чаму, паслухай мяне. Зараз у мяне трое дзяцей, сем унукаў, праўнучка і праўнук. Дык чым мне блага цяпер?

# ВЕСТКІ З ВІЛЕНШЧЫНЫ

**СВЯТА ПАЭЗІІ** ўжо ў 17-ы раз адбылося ў Барэйкаўшчыне, што ў некалькіх км ад Вільні. Гэта традыцыйныя майскія сьвяткі паэзіі на сядзібе сельскага лірніка Уладзісліва Сыракомлі. Польска-беларускі паэт У. Сыракомля з сям'ёй пераехаў сюды ў 1853 г. – фальварак Барэйкаўшчына, - дзе з перапынкамі прабыў 9 апошніх год жыцця. Гэта найбольшы плённы перыяд яго творчай дзейнасці, але і трагічны. У 1861 годзе за ўдзел у патрыятычных маніфестацыях ён арыштоўваецца царскімі ўладамі і пераследуецца. Абвастраецца хвароба. Але ён працягвае творча працаваць: займаецца літоўска-беларускім фальклорам, гісторыяй краю... спрабуе сябе і ў драматургіі. Яго твор "Хатка ў лесе" упершыню быў пастаўлены аматарскім тэатрам у Судэрве, што бліз Вільні, адкуль трапляе ў тэатр у Варшаву. Драма ў 3-х актах "Каспар Карлінскі" – трыумф пісьменніка. Памёр У. Сыракомля ў 1862 г. Пахаваны на могілках Росы ў Вільні.

Імя паэта шануецца на Віленшчыне. ТБМ імя Ф.Скарыны Віленскага Краю таксама не стаіць у баку. Так, на Росах, на г.з. Літарацкай горцы адрэстаўравана яго магіла (заўвага: аўтар асабіста прымаў удзел у гэтым), а ў в.Дукшы Віленскага раёна па стараньню ТБМ адна з вуліц названа яго імем.

... Тут, у Барэйкаўшчыне, без хвалявання нельга быць, бо гэта зямля тых, хто любіў просты люд, хто аддаў свайму народу свой талент, душу і сэрца... Гэта сельскі лірнік і аўтар "Дудкі беларускай" – Сыракомля і Багушэвіч. Даследчыкі лічаць, што яны былі знаёмыя. Так, У.Содаль прысьвяціў гэтаму свой нарыс "Барэйкаўскі сусед".

У Барэйкаўшчыне ў свой час на сядзібе У.Сыракомлі праведаць хворага паэта былі С.Манюшка (кампазітар), граф Еўстафы Тышкевіч, Адам Кіркор і г.д. ...

Цяпер кожны год у траўні сюды збіраюцца "ДА СЫРАКОМЛІ" аматары кніжак і паэзіі. Тут суседствуе польская і літоўская, беларуская і ўкраінская, расейская мовы.

У будынку цяпер разьмешчаны бібліятэка і музэй У.Сыракомлі. Імпрэзы праводзіць Цэнтральная раённая бібліятэка Віленскага раёна, у прыватнасці, яе кіраўнікі – Дарус Шылейка, Яніна Зубрыцкая, Эляна Вайкшнене, Ірына Масевіч.

... А 26 траўня 2001 года на чарговым (17-м) сьвяце Паэзіі беларусаў Літвы рэпрэзэнтаваў БЕЛАРУСКІ ВІЛЕНСКІ ПАЭТ, РЭДАКТАР ГАЗЭТЫ "РУНЬ" АЛЕГ МІНКІН.

Сярод дэбютантаў Свята Паэзіі, былі таксама паэтэсы з ЗША – Аліцыя Міцкелевіч і Міраслава Вайшвіла.

## ДЫПЛАМАНТЫ

**27 ТРАЎНЯ 2001 г.** У Нямянчыне Віленскага раёна пад час правядзення 13-й Фэстыны "Польскія квяты" у Выставе твораў майстроў народнай творчасці прымалі ўдзел і віленчукі-беларусы. Дзве майстрыхі былі адзначаны ДЫПЛОМАМІ.

Гэта – беларускі Людміла Мінкіна, якая прадстаўляла калекцыю ўласнаробленых лялек і Тацціяна Маркавец за прадстаўленыя свае творы – ВЫЦІНАНКІ. Дыпломы нашым майстрыхам – беларусачкам уручаў дэпутат Сейму Літвы Ян Мінцэвіч.

* * *

1. Пасол РБ у Літве У. Гаркун адмовіў у выдачы ўязной візы ў РБ сябрам ТБМ, каб з'ездзіць па кніжкі для беларускага аддзела бібліятэкі ў Савічунах Віленскага р-на, які тут стварaецца нашым Таварыствам. Гэтую адмову Гаркун зрабіў нягледзячы на тое, што неаднаразова заяўляў, што "для культуры межаў не існуе" і што было хадатайніцтва ад А. Трусава на выдачу віз для паездкі па кніжкі.

Так Гаркун У. "клапоціцца" аб адраджэнні беларушчыны на Віленшчыне. Гэта нас усіх абурае за такія адносіны да беларускай дыяспары.

2. Ліст з Крулеўшчыны Докшыцкага р-на: "Грамадзянка Русалоўская Р. пішыць: "Я падпісалася на газету "Наша слова". Газета патрэбная і недарагая газета. Раблю падшыўку для "Засцянковай хаткі". Буду і ў далейшым выпісваць. Цяпер у Круляўшчыне выпісваюць гэтую газету 3 чалавекі, а ў той час, як у Докшыцах-2, у тым ліку адна ведамасная. Гэта насцярожвае. Я заклікаю: выпісвайце і чытайце "Наша слова".

*Ю. Гіль,*

*старшыня ТБМ Віленскага краю.*

